Цана нумэру 50 кап.

# БЕЛАРУСКАЯ ДУМКА

ШТОДЗЕННАЯ ГАЗЭТА.

Рэдакцыя і Адміністрацыя — Востра-Брамская, № 9 — адчынена што дня, апрача сьвята, 10—3 гадз.

АБВЕСТКІ: 1 радок перад тэкстам 4 рублі. 1 радок за тэкстам 2 рублі. З безработных за усю абвестку 2 рублі.

Год I. Аўторак, 24 чэрвеня 1919 г. № 27.

## Расея і Польшча аб Беларусі.

Прызнаньне дзяржавамі Антанты ўраду Колчака зрабіла вельмі войстрым пытаньне аб усходніх граніцах Польшчы. Паўстаўшая для новага дзяржаўнага жыцьця Польшча хоча выйсьці з сваіх этнаграфічных граніц і пашырыцца ува ўсе бакі, у той лічбе і на ўсход. На ўсход ад Польшчы пачынаюцца абшары Беларусі, абвесьціўшай сябе незалежнай ад Расеі. Польшча, карыстаючы з мамэнту, калі ў Беларусі няма магчымасьці бараніць сваімі сіламі сваю незалежнасьць, рупіцца сьхіліць Беларусь да хаўрусу з Польшчай. Беларусь знаходзіцца цяпер у такім палажэньні, калі ў ёй зацікаўлены ўсе яе суседзі, у тым ліку Расея і Польшча.

Колчак і Сазонаў лічуць Беларусь сваёй «правінцыяй». Польшча таксама лічаць Беларусь с в а ё ю «усходняю зямлёю». Як бачыце, Беларусь і для Расеі і для Польшчы — с в а я зямля. Другімі словамі, і Польшча і Расея не паважаюць правоў Беларусі на незалежнасьць і гатовы, калі падойдзе зручны мамэнт, падзяліць Беларусь паміж сабою.

Плян падзела Беларусі — ня выдумка. Такі плян ёсьць і жыве ен ў галовах польскіх і расейскіх палітыкаў старой маркі.

Палітыкі гэтыя лічуць, што Беларусь дзеліцца на дзьве паловы: усходнюю і заходнюю. У першай мае ўплывы Расея, ў другой—Польшча. У першай—жывуць праваслаўныя беларусы, а ў другой — ёсьць значная лічба і каталікоў-беларусаў. З гэтай прычыны каталікоў трэба далучыць да Польшчы, а праваслаўных да Расеі. Такім парадкам, некаторыя часьці Горадзеншчыны і Віленшчыны, як думаюць польскія палітыкі ад эндэцыі, павінны быць проста далучаны да Польшчы.

У такім сваім пажаданьні гэтыя палітыкі сустрэнуцца з палітычнай праграмай Колчака—Сазонава і К-о, лічучых, што Расея павінна валадаць ўсёю Беларусьсю. Польшчу яны хоць і прызнаюць незалежнай, але-ж у этнаграфічных граніцах, значыцца, бяз Горадзеншчыны і Віленшчыны. Сярод палякоў у цяперашнім часе ёсьць і яшчэ адна значная палітычная група, каторая лічыць, што ня можна адшарпаць ад Беларусі часткі і далучаць іх да Польшчы, што трэба далучыць да Польшчы ўсю Беларусь, зрабіўшы яе ці аўтаномнай вобласьцю, ці незалежнай дзяржаваю. Такім парадкам можа здарыцца, што і з польскага і з Расейскага боку будуць зроблены крокі, каб далучыць да сябе усю Беларусь і з гэтым нам трэба будзе лічыцца, як з вельмі важным палітычным фактарам, ад таго ці іншага разьвязаньня каторага будзе залежаць вельмі многае.

Калі-б ў Польшчы атрымала верх палітыка стварэньня незалежнай і непадзельнай Беларусі, то Беларусь, мы лічым, магла-б зрабіцца незалежнай дзяржавай.

Справа ў тым, што Колчак яшчэ нам ня грозіць, ён яшчэ ня можа сходаць бальшавікоў. Калі гэта будзе, што Колчак падойдзе за сваімі войскамі да Беларусі, яшчэ невядома. Нам здаецца, што яшчэ доўга прыйдзецца чакаць яго. У гэты самы час Польшча магла-б павясьці палітыку стварэньня незалежнай Беларусі. Трэба толькі, каб Польшча пайшла на гэта з шчырым сэрцам, простаю дарогаю, без усякіх ашуканстваў. Трэба, каб польская палітыка адкінула ўселякія памыслы аб далучэньні да сябе частак Беларусі і адраклася ад эндэцкай агітацыі аб падзеле Беларусі.

Замест пасылкі пасольства Колчаку—няхай польскі урад прышлець пасольства да беларускага ўраду і з ім згаварыцца аб тых ці іншых нашых суседзкіх адносінах.

Да той-жа пары, пакуль польская палітыка будзе гаварыць аб нашых землях з усімі, апрача нас, нічога з такой палітыкі ня выйдзе, і Беларусь з Польшчай не згаварыцца.

Трэба з большым паважаньнем, паночкі, аднасіцца да нас і уцяміць сабе цьвёрда, што бяз нас вы не пажэніце нас з сабою, а таксама і не падзеліце нас на кавалкі, бо хоць мы і слабыя, але-ж можам дайсьці да праўды, калі нас ваша палітыка будзе крыўдзіць.

**Лук—аш.**



## ПАРА СЛОЎ АБ БРАТНІХ АДНОСІНАХ.

Польскія газэты падаюць нам весткі, што немцы ў Горнай Сілезіі пачалі выганяць жыхароў-палякоў з іх хат. Газэты апісаваюць уселякія зьдзекі, якія павінны цярпець там палякі ад немцаў. Газэты гукаюць усіх хаўрусных дзяржаў і крычаць аб помсьце да неба. Неба павінна убачыць, што церпяць палякі, якую крыўду ім наносяць ворагі і зараз-жа пакараць усіх, хто іх крыўдзіць. Можна падумаць, што неба створана толькі для польскага народу, быццам у іх манаполія якая на Бога. А нашы стогны і малітвы пачуе неба ці не, як вы думаеце? Тое, што мы церпім і цярпелі праз увесь час, ці убачыць хто-небудзь: «Gazeta Warszawska» у № 167 піша, што рука Польшчы была па-брацку працягнена да беларусаў, але яна асталась вісець у паветры, бо ніхто яе не падхапіў. Гэта праўда, што мы ня кінуліся, бо мы бачылі другую руку, якая хацела накінуць нам вяроўку на шыю. І ў знак братніх адносін аўтар стацьці піша: „Але аб Вільні ніякай гутаркі быць ня можа, Вільня будзе польскім местам“. А мы, беларусы, што ў гэтым месьце? Госьці, пэўне, будзем... Куды-ж нам пайсьці з нашай бацькаўшчыны? Выбачайце, але ў адным гэтым памянёным факту няма ніякай праўды і шчырых адносін, а гэтых фактаў мільёны.

У гэтай самай газэце ёсьць вестка, што ў Варшаву прыехала з Вільні беларуская дэлегацыя, каб афіцыяльна заявіць польскаму ўраду ад жыхароў Беларусі, што яны хочуць прылучыцца да Польшчы. Праўда толькі ў тым, што дэлегацыя паехала да Варшавы, але я не разумею, чаму жыхарам гэтага краю так клапаціцца і пасылаць дэлегатаў аб прылучэньні, калі вы самі больш за нас аб гэтым клапаціцеся і нам ня трэба было-б дарма турбаваць людзей.

Беларусы—цёмныя і дурныя, бо ня хочуць зразумець, якую ім робяць пашану, калі прылучаюць іх да лона Польшчы...

І агульнае жаданьне беларусаў, каб нашы апякуны не цягнулі нас сілком да лона, бо наш лёзунг быў, ёсьць і будзе „незалежнасьць і непадзельнасьць“ Беларусі, толькі дзеля гэтага езьдзяць нашыя дэлегаты ў Варшаву і дзеля гэтага працуюць ўсе, хто лічаць сябе беларусам.

**А. С—а.**

